

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

13 (159) ЖНІВЕНЬ 2013 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## БЫВАЙЦЕ, СВІННІ!

**Шумілінскі раён трапіў у 100-кіламетровую буферную зону вакол ачагу эпідэміі АЧС, таму ўладамі прымаюцца надзвычайныя меры. Усім прыватным гаспадарам, якія гадуюць свіней, рэкамендавана іх зарэзаць.**

Яшчэ 2 ліпеня ў ветэрынарным Дэпартаменце Міністэрства сельскай гаспадаркі пацвердзілі, што прычынай паморку свіней на комплексе "Лучоса", які размешчаны каля вёскі Копці Віцебскага раёна стала эпідэмія АЧС (афрыканская чума свіней). Для жыхароў Віцебшчыны гэта азначае, што свінні, якіх трымаюць прыватныя гаспадары ў радыусе 100 кіламетраў ад ачагу інфекцыі, магчыма, будуць знішчаны.

З фармуліроўкамі ветэрынарнага заканадаўства, аднак, насельніцтву не ўсё зразумела. Калі больш дакладна, дык ёсць паняцце "другая пагражальная зона". З лютага 2013 года пастановай Мінсельгасхарчу №3 "…внесены изменения в ветеринарное законодательство, согласно которым во второй угрожаемой зоне могут предпринимать все меры, что и в первой…"

Што дае падставу на гэтай тэрыторыі выразаць усіх свіней, а таксама свіней могуць адбіраць і знішчаць.

Даўно наш раён не ведаў такога хвалявання. У самую летнюю спёку гаспадары на прыватным падвор'і свіней колюць, рэжуць, а дзесьці грымяць і стрэлы з паляўнічых ружжаў. Гэта ж няпроста: тэрмінова пазбавіцца ад разнастайнага свінапагалоўя. А што, калі гэта свінаматка з парасятамі? Або нядаўна вылегчаны кнур? Хто будзе есці такое мяса з агідным пахам?

Свініну тэрмінова прадаюць аднавяскоўцам, часова расфасоўваюць па лядоўнях родзічаў, некаторыя нават купілі дадатковыя маразільнікі.

Наш карэспандэнт высвятляў падрабязнасці сітуацыі ў Дабейскім сельсавеце. Па словах старшыні сельвыканкама Ірыны Шалахавай, ніякіх асаблівых дакументаў наконт эпідэміі АЧС з вышэйшых інстанцый не паступала. Існуюць агульныя палажэнні, з якімі можна азнаёміцца ў мясцовай раёнцы. Спісы грамадзян, якія трымаюць жывёлу на асабістых падворках, у тым ліку і свіней, у сельсавеце складзены. Апроч таго, маюцца прадпісанні, у якіх грамадзяне пісьмова папярэджваюцца аб наступствах захворвання жывёлы. У прадпісанні рэкамендавана забіць усіх прыватных свіней незалежна ад узросту да 10 жніўня.

Чыноўнікамі вядзецца тлумачальная праца. Работнікі сельсавета, ветэрынарныя спецыялісты, старэйшыны вёсак наведваюць дамы і кватэры уладальнікаў жывёлы і прапануюць ім паставіць свой подпіс у прадпісанні.У выпадку невыканання рэкамендацый штрафных санкцый пакуль не прадугледжана. Аднак жыхароў папярэджваюць аб тым, што ў выпадку захворвання хаця б аднаго кабанчыка афрыканскай чумой ўсё пагалоўе свіней у вёсцы будзе адбірацца ў прымусовым парадку і знішчацца. Пры гэтым ніякіх сходаў грамадзян або агульнага сходу работнікаў мясцовага сельгаспрадпрыемства не было. Не заўважана ні адпаведных аб'яў, ні загадаў на інфармацыйных стэндах.

Насельніцтва раёна ставіцца ў асноўным да праблемы эпідэміі АЧС з разуменнем. Панікі няма, больш за тое, многія ў прыватных размовах прызнаюцца, што ніякіх лістоў не падпісвалі. А тыя, хто зарэзаў большых кабаноў, пакінуў малых на гадоўлю. Некаторыя ўвогуле набылі малых парасят і збіраюцца вырошчваць надалей, каб забіць ўзімку.

Па ўсяму відаць, што нягледзячы на чарговую навалу, наш беларускі менталітэт бярэ сваё. Бо свінагадоўля для беларускага селяніна здаўна была матэрыяльнай базай для фізічнага існання. Чуму свіней завезлі з суседняй Расеі праз адкрытую мяжу разам з кармамі – у гэтай краіне з яе вечным бардаком ні ўлады, ні народ з эпідэміяй справіцца не могуць. Хвароба там ужо трывала ўкаранілася за некалькі гадоў. Ходзяць чуткі, што і наш мясцовы бюракратычны рэжым замоўчвае маштабы эпідэміі. А заадно ўлады не прамінулі расправіцца з сялянскімі гаспадаркамі як канкурэнтамі буйных калгасных комплексаў, каб збыць залежалую прадукцыю ды аблегчыць цяжар банкруцтва.

**Аляксандр Шчамлёў**

ПРАВАПАРАДАК

## ВАНДАЛЫ

**На вуліцах райцэнтра невядомыя зламыснікі разбураюць жалезабетонную агароджу.**

Тэма не новая, аднак рэаліі жыцця раёна патрабуюць больш пільнай увагі да падобных здарэнняў. Шуміліна прыгажэе, вуліцы і будынкі для дэкаратыўнага аздаблення абносяць агароджай.

Аднак не ўсім даспадобы прыгажосць, асабліва тады, калі яна крохкая і мясцовай вытворчасці. Некаторым так і не церпіцца пакінуць на новай агароджы свой брудны аўтограф, праверыць на ажурных гіпсавых пралётах сваю сілу. Вельмі шкада працы тых, хто вырабляў, устанаўліваў, фарбаваў агароджу каля нашых дамоў.

У Шуміліне невядомыя зламыснікі па начах ламаюць пралёты новай бетоннай агароджы. Да прыкладу, па вуліцы Юбілейная тыдзень таму толькі за адну ноч знішчылі шэсць пралётаў. Агароджа была пашкоджана і на іншых вуліцах райцэнтра: Сіпко, Суворава, Луначарскага.

У міліцыі не выключаюць, што хуліганскія выхадкі маглі ўчыніць падлеткі. Некалькі гадоў таму былі знойдзены два старшакласнікі, якія мелі дачыненне да разбурэння двух дзясяткаў пралётаў уздоўж аўтадарогі Віцебск-Полацк. Бацькоў аштрафавалі на значную суму. Але, трэба зазначыць, што даказаць віну ў паломцы плоту даволі цяжка, бо доказная база даволі невялікая. Кругласутачны пост каля агароджы, зразумела, паставіць немагчыма. Супрацоўнікі міліцыя спадзяюцца, што добрасумленныя грамадзяне акажуць дапамогу ў затрымцы і апазнанні зламыснікаў. Калі хто ведае факты правапарушэння, просяць звяртацца ў раённы аддзел унутраных спраў па тэлефонах 4-10-06 або 102. Ананімнасць гарантуецца.

Некаторыя мясцовыя жыхары мяркуюць, што "дапамагаюць" набыць плоту непрывабны выгляд і ў карыслівых мэтах. Верхнія часткі платоў наўпрост здымаюць злодзеі або алкашы ды прадаюць прыватнікам.

Дарэчы, узвядзеннем платоў за бюджэтныя сродкі шумілінскія захапіліся даўно. Быў час, калі на рэспубліканскім аглядзе-конкурсе Лаўжанскі сельвыканкам на чале са старшынёй Святланай Кійко праславіўся тым, што на яго тэрыторыі ўзвялі каля трох кіламетраў агароджы. Зараз новы плот устанаўліваюць уздоўж вуліцы Юбілейная. Перадусім знялі плот са штыкетнікам – драўляныя слупы за тры гады прагнілі, і ён пачаў развальвацца. Работы вядуцца сіламі ПМК-70, шумілінскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Бадай, што выраблянь штыкетнік і бетонную агароджу пачалі ў шумілінскіх арганізацыях, каб уратавацца ад банкруцтва.

**Алесь Прыбярэжны**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ДУХОЎНАСЦЬ

## ПАСКОРЫЛІСЯ ТЭМПЫ БУДАЎНІЦТВА ХРАМА

**У цэнтры Шуміліна значна ажывілася будаўніцтва праваслаўнай царквы. Поўным ходам ідзе ўзвядзенне цаглянага мура вонкавых сцен. Рабочыя рупяцца нават у суботні дзень**

Нагадаем, што будаўніцтва царквы ў цэнтры гарадскога пасёлка пачалося па ініцыятыве мясцовых улад. Напярэдадні знеслі доўгабуд гандлёвага цэнтра, які прастаяў закінуты амаль два дзесяцігоддзі. Яшчэ ў траўні 2012 года падчас урачыстай цырымоніі быў закладзены першы камень, а на месцы будучага прастола ўстаноўлены крыж. Будаўніцтва царквы стала знакавай падзеяй для Шуміліншчыны. Бо храм у цэнтры горпасёлка здаўна з'яўляўся марай многіх шумілінцаў. І людзі адгукнуліся: вернікі, радавыя нераўнадушныя грамадзяне і арганізацыі ўсіх форм уласнасці зрабілі першы важкі ўнёсак у 324 мільёны рублёў.

Грошай, аднак, хапіла толькі на закладку фундамента. І натуральна, як у нас заўжды бывае, на гэтым фундаменце будаўніцтва замарудзілася, пакуль пад асабісты кантроль яго не ўзяў кіраўнік раёна Уладзімір Куранны. Неадназова старшыня райвыканкама выказваў прэтэнзіі і да ПМК-70 за невыкананне графіка работ.

Свой уклад унеслі прадпрымальнікі раёна, якія выдзелілі 44 мільёны рублёў. Усяго на перыяд чэрвеня 2013 года было сабрана каля 500 мільёнаў. Але на будаўніцтва храма толькі па праекту патрэбна больш за 6 мільярдаў.

Не сакрэт, што грошы збіраюцца і з дапамогай добраахвотна-прымусовых пабораў. Адміністрацыя дзяржарганізацый раёна наўпрост робіць адлічэнні з заробкаў сваіх работнікаў праз бухгалтэрыю дзесьці па 50 тысяч рублёў.

Насельніцва ў асноўным адносіцца да падобнай практыкі лаяльна, хіба што можна знайсці негатыўныя выказванні на беларускіх форумах. На партале TUT.BY адзін удзельнік нехта nexcell: напісаў :

"В Шумилино тоже строят церковь, но для всех такса 50 тысяч, и нету разницы, православный ты или мусульманин, дай – и все!!! Уже некоторые по 3 раза давали. Зато у батюшки Mercedes бизнес-класса, а у храма только фундамент и груда б/у кирпичей рядом валялась…"

Як бы там ні было, але любая пасільная дапамога паскорыць будаўнічыя работы. Ахвяраванняў толькі саміх праваслаўных вернікаў не хопіць. Сумна, але нават падчас самага вялікага свята ў гонар Святога Мікалая Цудатворца на хросны ход прыйшло ўсяго пару дзясяткаў людзей. Таму каля будаўнічай пляцоўкі працуе царкоўная лаўка. Тут можна купіць "імянную" цэглу для асабістага ўкладу ў будаўніцтва царквы. Дарэчы, аўтар гэтага артыкула таксама зрабіў ахвяраванні: купіў цаглінку за 30 тысяч беларускіх рублёў, на якой прасіў напісаць імя сваёй маці. Няхай гэтая цаглінка ляжыць вечна у мурах шумілінскай Свята-Мікалаеўскай царквы.

Безумоўна, гэта вялікая міласць для кожнага горада ці вёскі - узвядзенне святыні. Храмы будуюцца раз у 200-300 гадоў. І мы ўсе аказаліся выбранымі паўдзельнічаць у будаўніцтве праваслаўнай царквы на нашай роднай зямлі.

**Уладзімір Амбросаў**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ШУМІЛІНЦАЎ НЕПАКОІЦЬ РОСТ ЦЭН

**Рост коштаў на тавары і паслугі па-ранейшаму застаецца галоўнай праблемай, якая хвалюе насельніцтва Шуміліншчыны. Як паказалі вынікі апытання, праведзенага супрацоўнікамі райвыканкама, гэта праблема турбуе 62% грамадзян раёна.**

Больш за ўсё ў мінулым месяцышумілінцаўхваля-вала павелічэнне цэн на тавары і паслугі. Раней рэспандэнты выказвалі незадаволенасць падвы-шэннем коштаў у мясцовых крамах, асабліва на дзіцячыя тавары і харчаванне. Таксама згадвалі падаражэнне дзіцячых тавараў, мыйных сродкаў, будаўнічых матэрыялаў, адзення, абутку, электратавараў і бытавых прыбораў.

Тым часам 36% апытаных адзначылі дрэнны стан дарог у раёне, 32% занепакоены слабым развіццём прамысловага сектара эканомікі. На чацвёртай пазіцыі ( 30% рэспандэнтаў ) аказалася праблемная сітуацыя ў сістэме аховы здароўя, а 28% удзельнікаў апытання лічаць найбольш негатыўнай з'явай п'янства і алкагалізм. Па праблемных пытаннях заработнай платы, стварэння новых рабочых месцаў, навядзення парадку на зямлі выказаліся 24% анкетуемых. Нізкі ўзровень культуры не задавальняе 20%, а 14% бачаць праблемы ў беспрацоўі, 12% хвалююцца за лёс гадавання моладзі.

Трэба дадаць, што вынікі падобных анкетаванняў з большага адпавядаюць настрою беларусаў па ўсёй краіне. Паводле даных сацыялагічнага маніторынгу Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук, больш як 60% жыхароў Беларусі хвалюе праблема цэн на прадукты харчавання і тавары першай неабходнасці. У разгар крызісу, да восені 2011 года, праблема цэн на тавары першай неабходнасці хвалявала ўжо 71,5% жыхароў Беларусі. Летась гэта праблема хвалявала 61,1% беларусаў.

Згодна з праведзеным у 12 малых гарадах краіны ў пачатку 2013 года сацыялагічным апытаннем, кожная пятая сям'я траціць на прадукты харчавання ад 70% да 90% сямейнага бюджэту. У кожнай трэцяй сям'і расходы на прадукты харчавання складаюць ад 50% да 70% і толькі 5% сем'яў расходуюць на прадукты харчавання менш як 30% сямейнага бюджэту.

**Алесь Шумскі**

ЭКАЛОГІЯ

# ПАВЕЛІЧЭННЕ КОЛЬКАСЦІ АДЫХОДАЎ ВЫТВОРЧАСЦІ

**За апошнія гады на Шуміліншчыне назіраецца рост аб'ёма адыходаў вытворчасці, у тым ліку і небяспечных.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб ахове навакольнага асяроддзя краіны.

УцэлымпаБеларусіадбылося павелічэнне небяспечных адыходаў вытворчасці з 192 млн. тон у 2005-м годзе да 943 млн. тон у 2011 годзе – амаль у пяць разоў.

Пры гэтым як па краіне, так і на Віцебшчыне назіраецца рост простых адыходаў вытворчасці. У Шумілінскім раёне адбыўся іхні рост з 2,6 тысяч тон у 2005-м годзе да 3,8 тысяч тон у 2012 годзе.

Для бяспечнай экалогіі істотна выкарыстанне гэтых адыходаў, іх пераапрацоўка. І ў гэтым кірунку прадпрыемствы і арганізацыі Шумілінскага раёна працуюць нестабільна. Калі ў 2010 годзе было выкарыстана 2,1 тысяча тон адыходаў, то ў 2011 годзе толькі 1,8 тысяч тон. Праўда, у мінулым годзе гэты паказчык крыху палепшыўся: было перапрацавана 2,5 тысяч тон адыходаў вытворчасці.

Яшчэ горш працуюць з адходамі вытворчасці ў Шаркаўшчынскім, Докшыцкім раёнах, дзе выкарысталі толькі па 100 тон адходаў і зусім не займаліся адходамі ў Бешанковіцкім раёне.

Дарэчы, прааналізаваўшы перавышэнне нарматываў адкідаў забруджвальных рэчываў прадпрыемствамі Беларусі, Мінпрыроды выявіла, што некаторыя прадпрыемствы не толькі на працягу некалькіх гадоў сістэматычна забруджваюць навакольнае асяроддзе, але і не прымаюць належных мер па ліквідацыі выяўленых парушэнняў природаахоўнага заканадаўства. У сувязі з гэтым Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя склала спіс забруджваючых навакольнае асяроддзе прадпрыемстваў, якім пагражаюць штрафныя санкцыі ў выпадку парушэнняў. У гэты спіс трапілі і шумілінскія прадпрыемствы: Обальскі керамічны завод і жыллёва-камунальная гаспадарка.

**Уладзімір Амбросаў**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# У ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ СТАЛІ ЧАСЦЕЙ ЗАБІВАЦЬ

**На нарадзе ў абласной пракуратуры было адзначана павелічэнне колькасці забойстваў і замахаў на забойства. Акрамя таго, больш чым у тры разы павялічылася колькасць крымінальных спраў, узбуджаных за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу.**

У цэлым, як было адзначана на нарадзе, у гэтым годзе ў Віцебскай вобласці захоўваецца стабільная аператыўная абстаноўка. Усяго за 7 месяцаў года на Віцебшчыне зарэгістравана 7111 злачынстваў, што на 196 злачынстваў (-2,7%) менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Са станоўчых тэндэнцый можна адзначыць скарачэнне колькасці злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення, паўторна, групай асобаў, непаўналетнімі. З адмоўных - рост колькасці забойстваў і замахаў на забойства. Асабліва ў Полацкім, Гарадоцкім, Талачынскім, Аршанскім раёнах. Акрамя таго, выклікае заклапочанасць рост хуліганскіх праяваў у Віцебску, Браслаўскім, Гарадоцкім, Дубровенскім, Міёрскім, Аршанскім і Чашніцкім раёнах. Больш чым у тры разы павялічылася колькасць крымінальных спраў, узбуджаных за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу. Калі год таму ў вытворчасці было толькі 14 крымінальных спраў па гэтым артыкуле, то цяпер - 49.

Комплекснае вывучэнне прычын і ўмоў здзяйснення злачынстваў супраць асобы паказала, што ў аснове большасці трагедый ляжаць сацыяльныя фактары, звязаныя з п'янствам, нізкім узроўнем культуры, сямейнай нядобразычлівасцю. Некаторыя грамадзяне доўгі час вялі амаральны лад жыцця, нідзе не працавалі, злоўжывалі спіртнымі напоямі, але прафілактычная праца праводзілася з імі фармальна, альбо яны цалкам выпалі з поля зроку праваахоўных органаў. Недастаткова актыўна ўжываліся грамадзянска-прававыя, адміністрацыйныя і медыцынскія меры рэагавання. Допускаюцца факты неабгрунтаванага спынення праверак па матэрыялах названай катэгорыі з растлумачэннем пацярпелым правоў узбуджэння спраў у судзе ў прыватным парадку, калі з мэтай абароны правоў і інтарэсаў пацярпелага боку патрабавалася ўмяшальніцтва праваахоўных органаў.

У пытаннях барацьбы з карупцыяй, як адзначалася на нарадзе, часам адсутнічае цеснае ўзаемадзеянне паміж аператыўнымі службамі і следчымі падраздзяленнямі. А ў сельскіх раёнах Віцебскай вобласці не хапае кваліфікаваных кадраў, здольных на высокім прафесійным узроўні выяўляць карупцыйныя злачынствы ў асноўных сегментах эканомікі.

Уходзе нарады выпрацаваны алгарытм дзеянняў праваахоўных органаў на бліжэйшую перспектыву, дадзены канкрэтныя даручэнні кіраўнікам структурных падраздзяленняў пракуратуры Віцебскай вобласці і УУС Віцебскага аблвыканкама, накіраваныя на павышэнне эфектыўнасці праваахоўнай дзейнасці.

**Паводле партала region.ej.by**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# ПЕНСІЯНЕР АТРЫМАЎ АПЁКІ ПРЫ ТУШЭННІ ПАЖАРУ

**27 жніўня адбыўся пажар дома пад дачу ў вёсцы Бываліна Шумілінскага раёна.**

Па прыбыцці да месца выкліку назіралася адкрытае гарэнне драўлянага дома пад дачу. Гаспадар, жыхар абласнога цэнтра, знаходзіўся ў доме адзін. Пры спробе самастойнага тушэння пажару мужчына атрымаў апёкі 1-3 ступені (12%) рук, твару. Калі ён зразумеў, што справіццазагнёмнеатрымаецца, звярнуўся па дапамогу да суседзяў, якія і паведамілі ў службу МНС. Траўміраваны пенсіянер брыгадай хуткай медыцынскай дапамогі дастаўлены ў Шумілінскую раённую бальніцу.

Меркаваная прычына пажару - парушэнне правілаў эксплуатацыі газавага абсталявання (адбылося пашкоджанне шланга ад газавага балона, у выніку чаго адбылася ўспышка газапаветранай сумесі з наступным гарэннем).

У выніку пажару ў доме знішчаны дах, пашкоджаны паталочнае перакрыцце, сцены, маёмасць.

**Я. Вайтовіч**

# БЯЗДОМНЫ АБКРАДАЎ ПАДВАЛЫ І ЛЕЦІШЧЫ

У жыхара вёскі Дабея з незамкнутага падвальнага памяшкання скралі шматхуткасны ровар. У ходзе вышуку быў затрыманы мужчына без пэўнага месца жыхарства і роду заняткаў, раней судзімага за крадзяжы. Ровар коштам 2,3 мільёны беларускі рублёў канфіскаваны. Як высветлілася падчас следства, раней гэты ж мужчына выкраў з лецішча ў Пасёлку Прыазёрны музычны цэнтр, коўдры і падушкі. Заведзена крымінальная справа.

**Па матэрыялах РАУС**
**Уладзімір Амбросаў**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# У ОБАЛІ ПРОЙДУЦЬ СПАБОРНІЦТВЫ МАЛАДЫХ СЕМ'ЯЎ

Абласны этап конкурсу для маладых сем'яў, што жывуць на сяле, пройдзе 31 жніўня на Шуміліншчыне. Прыме свята Обальская школа. Конкурс называецца "Уладар сяла". Прыдумалі яго на Глыбоччыне як мерапрыемства раённага маштабу, а зараз ужо колькі год лепшых сельскіх маладых гаспадароў ды гаспадынь вызначаюць на рэспубліканскім узроўні.

Канкурсантам трэба будзе папіліць дровы, насмажыць дранікаў, упрыгожыць сноп, запрэгчы каня, паказаць сябе ў кулінарных конкурсах і рамёствах. Таксама яны павінны будуць падрыхтаваць візітку сваёй сям'і, абавязкова на беларускай мове.

Пераможцы абласнога этапу паедуць у Жлобін на "Дажынкі", там вызначаць уладара сяла рэспубліканскага маштабу.

**Алесь Прыбярэжны**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведамце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

КАЛІЙНАЕ ПЫТАННЕ

# ФРАНКЕНШТЕЙН. БЕЛОРУССКИЙ ВАРИАНТ

**Беспрецедентный - такое определение часто звучало вчера в связи с арестом гендиректора «Уралкалия» Владислава Баумгертнера. И с этим не поспоришь. Использовать встречу с премьер-министром в качестве «наживки», дабы заманить подозреваемого на свою территорию - это беспрецедентно. И невозможно ни в одной нормальной стране**

В любой нормальной стране Мясникович уже через полчаса с момента, когда на лентах информагентств появилось сообщение о аресте его гостя, объяснялся бы со СМИ. И по результатам этих объяснений либо сам писал заявление об отставке, либо снимал бы руководство спецслужб, которое допустило, чтобы глава правительства вел переговоры с человеком, подозреваемым в совершении серьезных преступлений.

У нас не наступило ни того, ни другого. У нас все по особому. Ибо кто такой Мясникович? Формально второе лицо в государстве? Не смешите. И ребенок знает, кто у нас главный, а остальные так - статисты и писарчуки.

А какой у статиста может быть имидж? Ему сказали - он сделал. И все довольны.

Поэтому не будем о Мясниковиче.

За свою долгую полити-ческую жизнь Александр Лукашенко многократно шел «ва-банк», и все привыкли, что у него всегда все получается. А даже если не получается, то услужливый агитпроп путем длительной и безжалостной атаки на умы сограждан убедит всех, что Александр Григорьевич в очередной раз разложил на лопатки весь мир.

Поэтому большинство не сомневается, кто выйдет победителем из очередной схватки.

Тем временем ситуация сложилась достаточно одноз-начная.

Один из влиятельных российских бизнесменов был завлечен на территорию союзнического государства. Провел переговоры с его властями, а когда их результаты неудовлетворилипринимающую сторону,быларестованиобвинен в совершении преступления.

Если бы договорились, никто никого бы не арестовывал. Не договорились. Арестовали.

И как не крути, а арест руководителя компании, кото-рая только за 2012 год заработала 3 950 млн. долларов, - это удар по российским интересам и однозначный вызов Кремлю.

Однако Россию не жалко. Она поддерживала Лукашенко вот уже 19 лет. Когда его власть шаталась, Кремль всегда протягивал ему руку помощи. Политик Лукашенко и созданная им политическая система - это во многом российский продукт.

И сейчас этот продукт дал звучную пощечину своему создателю. Сюжет прямо, как у Мэри Шэлли.

«Урри, Урри, где у него кнопка?» - вопрошал извест-ный персонаж популярного фильма из моего детства. Нечто подобное сейчас думают и в Кремле.

Так есть ли у Лукашенко кнопка? И знает ли Владимир Путин, где она находится? Или все наоборот. И это Лукашенко и его силовые структуры как раз сейчас нащупывают эту самую кнопку у Кремля?

Ответ на эти и другие вопросы мы получим уже скоро.

А пока Следственный Комитет учится безошибочно склонять фамилию Баумгертнер, сам господин Баумгертнер знакомится с особенностями белорусской пенитенциарной системы, а господин Мясникович готовится к новым встречам.

Ему еще со столькими надо встретиться!

**Анджей Почобут**

ПАЛІТЫЧНЫ ВЯЗЕНЬ

# ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ: НЕ КАЛЫМА — І ДЗЯКУЙ БОГУ

**Па вызваленні 28 жніўня з гарадзенскай турмы Зміцер Дашкевіч адказаў на некалькі пытанняў журналістаў.**

***— Якія самыя цяжкія моманты былі за час зняволення?***

— Якія самыя цяжкія? (усміхаецца). Самыя складаныя, калі два кешары па этапу цягнеш, а так усё проста.

***— Ці змяніла Вас турма?***

— Трэба, каб людзі паглядзелі ды ацанілі. Я ж не магу сябе сам ацаніць. Я б хацеў усім падзякаваць за падтрымку, за лісты, за малітвы. Гэта самае важнае для чалавека, які знаходзіцца ў турме.

***— Ці лёгка было вытрымаць той ціск, што аказваўся на Вас у турме?***

— Усё адносна. Цяжка не цяжка. Ведаеце, не так яно, каб і проста, але і не Калыма. Ну і дзякуй Богу.

***— Не зламалі Вас?***

— Я збіраюся займацца тым жа, чым займаўся. Буду рабіць тое, што рабіў да турмы.

***— Вы ж ведаеце, што шмат людзей з'ехала з краіны.***

— Я нікуды не еду.

***— Якое было стаўленне іншых вязняў?***

— Заўсёды і ўсюды вельмі добра падтрымлівалі. У некаторых месцах былі такія спробы адміністрацыі выкарыстоўваць зняволеных, каб яны нешта ажыццяўлялі. У турме заўсёды знойдуцца людзі, якія гатовыя зарабіць сабе ўмоўна-датэрміновае. Я іх разумею, калі 20–25 гадоў тэрмін, то будуць рабіць усё, што скажа адміністрацыя. Хаця нават у адміністрацыі ёсць розныя людзі, ёсць тыя, што чытаюць незалежныя СМІ. Нехта мог словам падтрымаць, нехта заварыць гарбаткі, нехта яблык. Я не магу сказаць, хто гэтыя людзі. Але будзе час, што скажу.

**"Наша Ніва"**

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# СУД У ЧАРГОВЫ РАЗ АДМОВІЎСЯ РАЗГЛЯДАЦЬ СКАРГУ

**Калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда разгледзела прыватную скаргу Любові Кавалёвай і Тацццяны Казяр – родных расстралянага Уладзіслава Кавалёва, абвінавачанага ў здзяйсненні тэракту ў метро Мінска.**

Родныя Кавалёва абскарджвалі адмову суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы па іх скарзе на адмову прадастаўць інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава.

Калегія пакінула без задавальнення прыватную скаргу Любові Кавалёвай і Тацццяны Казяр. Суддзя Аксана Будоўская пагадзілася з высновамі суда Кастрычніцкага раёна Мінска аб тым, што разгляд дадзенага звароту не падведамасны агульным судам Беларусі.

Па словах адваката Кавалёвай і Казяр Сяргея Галубка, у дадзеным выпадку парушана канстытуцыйнае права кожнага на судовую абарону. Адвакат таксама адзначыў, што ў чарговы раз беларускія суды падцвердзілі сваё нежаданне выконваць рашэнне Камітэта па правах чалавека – органа, прадугледжанага Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах,міжнароднай дамовы, якую Беларусь ратыфікавала і абавязалася выконваць.

Паводле адваката, рашэнне будзе абскарджана ў наглядным парадку, а таксама будуць прыняты меры на міжнародным узроўні, каб дабіцца выканання рашэння Камітэта па правах чалавека ААН, і каб родныя даведаліся праўду пра месца пахавання сына і брата.

Скарга Любові Кавалёвай і Тацццяны Казяр па справе Уладзіслава Кавалёва была разгледжана Камітэтам па правах чалавека ААН. Камітэт прызнаў, што было парушана права на жыццё і прызнаў парушэнне права на атрыманне цела забітага сваяка і інфармацыі пра час і месца ягонага пахавання.

**http://spring96.org/be/news/65430**

НАША ЎЛАДА

# КОЛЬКІ САЛДАТ Ў ЛУКАШЭНКІ?

**З грашыма ўсё горш, і таму уладам Беларусі давядзецца эканоміць нават на арміі. Такая, калі зняць камуфляж, падаплёка нарады па пытаннях узброеных сіл, якое Аляксандр Лукашэнка правёў 20 жніўня.**

У прыватнасці, прэзідэнт і галоўнакамандуючы заявіў, што варта працягнуць працу па аптымізацыі структуры і скарачэнні колькасці ўзброеных сіл.

**Войска будуць скарачаць і далей**

Пры гэтым прагучала, што цяпер у складзе ўзброеных сіл - каля ста тысяч чалавек. Лічба выклікала здзіўленне ў нашых ваенных экспертаў. Так, Аляксандр Алесін у каментары для Naviny.by палічыў яе звычайнай для беларускага афіцыйнага лідэра гіпербала. На самай справе колькасць айчыннага войскі даўно зрэзалі ніжэй гэтага паказчыка.

Па дадзеных іншага суразмоўцы Naviny.by - кіраўніка аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэя Паротнікава, сёння штатная колькасць беларускіх нд - 48 тысяч ваеннаслужачых і 12 тысяч асоб грамадзянскага персаналу, рэальная ж яшчэ менш за кошт некамплекту.

Паротнікаў шкадуе, што гаворка ідзе не аб рэфармаванні арміі, а аб далейшым банальным скарачэнні, пры тым што «часы скарачэнняў прайшлі, і ўжо даўно проста няма чаго скарачаць». Прычына ж такога прымітыўнага падыходу, як мяркуе эксперт, празаічная: «Грошай няма і не прадбачыцца".

Пры гэтым аналітык не згодны, што на забеспячэнне абараназдольнасці няма рэсурсу: велізарныя сродкі, у прыватнасці, былі патрачаныя на леташнія «Дажынкі» ў Горках і яшчэ невядома колькі прыйдзецца выдаткаваць на рамонт таго, што там ужо пасыпалася. «Беларусь у стане сябе абараніць, і грошы ў краіне ёсць, пытанне ў прыярытэтах і эфектыўнасці расходавання сродкаў», - рэзюмуе Паротнікаў.

**На табе, нябожа, што нам не гожа!**

І ўсё ж больш падобна на тое, што беларускія фінансы прыпадабняюцца Трышкіну каптану. Улада ліхаманкава мяркуе, што б каму сплавіць. Вось адзін з сімптомаў: на нарадзе Лукашэнка загадаў прадаваць лішкі прадукцыі ваеннага прызначэння, «якія нам у прынцыпе не патрэбныя ў сувязі з тым, што ідзе мадэрнізацыя узброеных сілаў». Карацей, на табе, нябожа, што нам ня гожа! «Падобна на тое, што гэта пошук грошай ужо не толькі для войска, але і ў прынцыпе для бюджэту», - мяркуе Алесін.

Аднак на гэтай справе Мінск відавочна шмат не наварыць. Залатыя часы распродажы велізарных запасаў савецкага ўзбраення прайшлі. Рэшткі невялікія, да таго ж іх трэба прыводзіць у таварны выгляд, ды і паквапіцца на такое дабро могуць хіба што адсталыя рэжымы трэцяга свету, у якіх у кішэнях, як правіла, гуляе вецер.

Рэальна сякі-такі даход можа даць продаж бамбавікоў Су-24, знішчальнікаў Су-27, кажа Алесін. Астатняе - існая дробязь, «тандэт» дадае эксперт: «З-за пары дзіравых танкаў і БРДМаў, за якія выручыш нават не сотні, а толькі дзесяткі тысяч даляраў, няма сэнсу пэцкацца».

Што ж тычыцца самалётаў, то, па грубым прыкідках, можна наскрэбці на продаж тузін, а то і больш састарэлых, распрацаваных ў СССР яшчэ ў 60-х гадах Су-24. Таксама ў мінулым годзе былі выведзены з эксплуатацыі ў айчынных ВПС 14 Су-27. Іх можна адрамантаваць і мадэрнізаваць на авіярамонтным заводзе ў Баранавічах. Але гэта таксама затраты. У выніку ж за Су-27 атрымаецца выбавіць максімум па 5-7 мільёнаў даляраў, Су-24 давядзецца прадаваць яшчэ танней, мяркуе Алесін...

**Чужыя базы - як стрэмкі**

Але чым далей, тым складаней вырашаць з Расіяй пытанні такім саматужным спосабам. Масква таго і глядзі прыбярэ да рук і сам МКЗТ. Тым больш не наскрэбці грошай на куплю сучасных баявых самалётаў. І наогул, мадэрнізацыя беларускага войска - пад вялікім пытаннем. Памятаеце «Вяселле ў Малінаўцы»: «У пана атамана няма залатога запасу».

Тым часам, як бачым, расейцы вырашаюць пытанне «абароны саюзных межаў» у фірмовым стылі - прыходзяць на беларускую зямлю са сваёй зброяй. Абяцаннямі даць С-300 кормяць які год, а вось месца для сваёй авіябазы пад бокам у НАТА падабралі ў дзіўнай спрытнасці.

Прадбачу рэпліку: а што тут такога, бо і натаўскія суседзі Беларусі выкарыстоўваюць для сваёй абароны замежную авіяцыю! Сапраўды, неба Балтыі патрулююць знішчальнікі іншых краін альянсу, Польшча размяшчае ў сябе амерыканскія F-16.

Розніца, аднак, у тым, што ў стасунках Расеі з Беларуссю - цяжкі імперскі бэкграўнд.

І не толькі з Беларуссю. Успомніце вайну з Грузіяй. Паглядзіце, як прэсінгуюць сёння накіраваную на еўрапейскую інтэграцыю Украіну.

Тэрыторыю ж на захад ад Смаленска Масква традыцыйна разглядае як свой стратэгічны плацдарм. Незалежнасць «сінявокай малодшай сястры" амаль усім пагалоўна у расійскіх элітах уяўляецца гістарычным непаразуменнем.

І калі калі-небудзь Беларусь абярэ іншы шлях развіцця, то ваенныя аб'екты ўсходняй суседкі могуць стацца ў гнілую стрэмку. *(скарочана)*

**Аляксандр Класкоўскі**

**Чытаць цалкам: naviny.by**

НАША КУЛЬТУРА

# ГУТАРКА З УЛАДЗІМІРАМ АРЛОВЫМ: МАЯ ДОЛЯ НЕЎМІРУЧАСЦІ

**25 жніўня пісьменніку і гісторыку споўнілася 60 гадоў. Напярэдадні ён адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».**

***«Наша Ніва»: Ці будзеце Вы адзначаць 60-годдзе? Увогуле, у Вас прынята адзначаць дні нараджэння? Калі так, то мо ўзгадаеце самы памятны з іх і самы памятны падарунак***

***Уладзімір Арлоў:*** Зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, было б не зусім па-мужчынску. Прыход на свет — галоўная падзея жыцця. Цяжка не пагадзіцца з Платонам: нараджэнне ёсць той доляй неўміручасці і вечнасці, якая дадзеная смяротнай істоце.

Мне даводзілася сустракаць гэты дзень і на самоце, і ў вандроўцы далёка ад дому, але я ніколі не забываў яго адзначыць — хацяб няспешнай размоваю з самім сабой.

З гадамі чалавек нібыта ўсё бліжэйшы да багоў, герояў і дэманаў, і людзі цікавяць яго ўсё менш. Пакуль што не магу сказаць тое пра сябе. Прынамсі, людзі працягваюць цікавіць мяне, і некаторых з іх я хачу абавязкова ў апошнія жнівеньскія дні ўбачыць.

Дадам, што з 2008 я адзначаю і другі свой дзень нараджэння — 6 лістапада. Тады я — ужо з інфарктам і тромбам, што затаіўся ў адной з артэрыяў — нейкім дзівам даляцеў з Лондана, дзе быў на канферэнцыі і, дарэчы, выступаў на тэму "Сыход паэта з яснай явы. Версіі Купалавай смерці", і ў Мінску адразу трапіў у рэанімацыю. Кардыяхірург Алег Паланецкі вярнуў мне адабраны рэаніматолагамі тэлефон і даў дзесяць хвілін да пачатку тэрміновай аперацыі. Па дарозе ў аперацыйную, я думаў, што, калі сёння ўсё скончыцца тут, даведаюся, што дзеецца там. Не вельмі, прызнаюся, такая думка суцяшала, але літарацкі інстынкт, тым не менш, прымушаў запамінаць усе дэталі.

У Віславы Шымборскай ёсць перастораны Андрэем Хадановічам верш «Заўтра без нас»:

...Наступны дзень
абяцае быць сонечным,
хоць тым, хто будзе жыць далей,
яшчэ спатрэбіцца парасон.

Як бачыце, парасон мне дагэтуль патрэбны...

***«НН»: Я ведаю, што кожнае лета Вы выпраўляецеся на беларускія выспы. Чаму на іх, а не на Мальту, Кіпр ці Тэнэрыфе?***

***УА:*** Выспа павінна быць бязлюднай. Тады, калі высаджваецца нашая сябрына, там — няхай усяго на пару дзён — утвараецца свой, заўсёды непаўторны свет, у якім мы ўсе разам сапраўды ляцім да зор.

Я бываў на Кіпры, але на Асвейскай выспе, далібог, спадабалася больш (міжіншага, гэта адзінае ў нас месца, дзе здараецца фата-маргана) Хіба ў Ларнацы або Лімасоле да вас прыйдзе знаёміцца сям'я ваўкоў? А тамтэйшыя вялізныя здзічэлыя сады! Калісьці з выспы выселілі на бераг цэлую вёску — каб нарэшце ўсталяваць у ёй савецкую ўладу. Але засталіся сады, падмуркі, магілы. І, вядома, душы былых астраўлянаў. Мне там увесь час прыходзілі на памяць «Марсіянскія хронікі» Рэя Брэдберы. Мо і з тае прычыны, што якраз пад час нашага падарожжа адбылося амаль поўнае зацменне Месяца. Ноч пасля зрабілася такой светлаю, што я а другой гадзіне чытаў на беразе свежы нумар "Arche".

***«НН»: Раней Вы казалі, што твор «Незалежнасць — гэта…» самы папулярны сярод тых, што просяць прачытаць на сустрэчах. А Вы лічыце, што незалежнасць — гэта ўжо назаўсёды, ці яе трэба працягваць пільнаваць?***

***УА:*** Незалежнасць — гэта назаўсёды найвялікшая каштоўнасць для нацыі, бо без яе нацыя не здольная выканаць сваю гістарычную місію ці, калі хочаце, Божае наканаванне. Ад нашай жа незалежнасці кожны дзень адшчыкваюць па драбку, а часам і адгрызаюць цэлы шмат.

Незалежнасці не будзе без гістарычнай памяці, а цяперашняя ўлада будуе «лінію Сталіна» ды яе філіялы, не «плануючы» ставіць помнік Каліноўскаму. Незалежнасці не будзе без мовы, а няўхільна скарачаецца беларускамоўнае навучанне. Я выдатна разумею, што Беларусь ніколі не была і не бу-дзе моналінгвістычнай, гэтаксама як не была і не будзе монакультурнай і монаканфесійнай. Але ж мы ёсць сведкамі штодзённай дыскрымінацыі менавіта мовы тытульнай нацыі.

Днямі тэлефаную ў даведку ў аэрапорт, і з таго боку дзяўчо зусім не агрэсіўна, а разгублена просіць гаварыць па-руску, бо баіцца нешта няправільна адказаць: не ведае, што за месяцы жнівень і верасень, перапытвае пра нядзелю. І раптам пачынае прабачацца: а дзе яна магла вывучыць мову, калі школа руская, радыё па-руску, тэлебачанне па-руску?

Дарэчы, пра тэлебачанне. Колькі мы чулі пра новы беларускамоўны канал! Усе абяцанкі аказаліся цынічнай хлуснёй. Можна дзень пры дні раз-пораз уключаць «Беларусь-3» і не сустрэць анічога ні беларускамоўнага, ні наогул беларускага хаця б тэматычна. Затое вас чакаюць здзеклівыя неспадзяванкі. Ідзе мульцік паводле казкі Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб»: цітры праплылі па-беларуску, а фільм дубляваны на рускую мову...

Але не дачакаюцца. Мова переживе і цяперашнюю хвалю русіфікацыі.

***«НН»: І апошняе. Што б самі пажадалі сабе на гэты дзень нараджэння?***

***УА:*** Пасцець, пакуль не сустрэнуцца канцы маёй бясконцасці. *(скарочана)*

Гутарыў **Зміцер Панкавец**

ПЕРШАЯ АСОБА

# ПОСЛЕДНЕЕ ПРЕЗИДЕНТСКОЕ ПРЕДУПРЕЖДЕНИЕ. ХРОНИКА

"Больше шальных денег в спорте не будет. Показал результат - получи бешеные деньги. Нет результата - нет денег", - это 18 августа президент чиновнико-спортсменам.

"Нет больше шальных денег. Я говорю это и сельчанам, и промышленникам, и другим. Не потому, что у нас нет денег – денег в стране хватает, но деньги надо зарабатывать. Тогда у нас не будет ни паник, ни катаклизмов, ни кризисов, ни авралов", – а это в сентябре 2011 года и тоже спортсменам.

"Денег шальных больше не будет. В случае достижения хороших результатов - получите еще какую-нибудь премию, результата не достигнете – возвращайте деньги. Я с вас спрошу за результат", - это в мае 2011 года конечно, спорстменам.

"Надо многим готовиться и к тому, я это публично сегодня объявляю, что шальных денег в спорте больше не будет. Только за конкретный результат", - это в августе 2012 года спортсменам же.

"Я не хотел бы, чтобы это совещание превратилось в очередное выбивание денег для спортивных организаций, клубов и спортсменов. Вот это выкиньте сразу из головы, этого не будет", - это в январе 2013 года последнее президентское предупреждение спортс-менам.

И я, вроде, дословно знаю, что президент скажет на следующих пяти спортивных совещаниях....

Помимо спорта "шальных денег" уже много много лет уже не будет у: сельского хозяйства, строителей, учёных, губернаторов и прочих. Особенно у крестьян, да:

• «Никто лишних денег из бюджета не получит», - это сельчанам в апреле 2004-го

• "Больше раздачи денег «огулом» не будет! Ее уже нет, этой раздачи. Я требую это сделать, но за счет производительности труда. Потому что денег уже никто не напечатает", - это им же в ноябре 2006.

• "Проедать деньги больше не будем. Это крестьяне должны себе четко усвоить. И не надо ждать, что мы эти деньги будем раздавать. Лишних денег нет", -- туда же в июле 2007-го.

• "Главный смысл корректировки в том, что шальных денег больше не будет. Никто вваливать в экономику и сельское хозяйство, как прежде, бешеных денег не будет», - тем же сентябрь 2011-го.

• «Шальных денег нет, никто вам деньги со стороны не даст, тем более, не напечатает», - а это уже губернаторам в июне 2012-го.

• "Еще раз подчеркиваю: никаких шальных денег быть не должно. У нас экономика работает нормально, она может себя обеспечивать", - и главе Нацбанка, в июле 2012 года

• «Никаких шальных денег нет и никаких излишеств быть не должно" – снова сельчанам, в апреле 2013-го.

Теперь каждый из вас может составить идеальную президентскую речь по итогам совещания по…. здесь впишите сами. Например так:

"Шальных денег больше не будет. Выкиньте сразу из головы. Деньги надо заработать. Покажите результат – и будут бешеные деньги. Я спрошу за результат." Аминь.

**Виктор Малишевский**

КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ...

# «НЯХАЙ ПРАДАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАНЧОХІ, ШКАРПЭТКІ!»

**Пракаповіч лічыць абавязковым выкананне ІП патрабаванняў тэхрэгламенту Мытнага саюза аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці.**

"Прадпрымальнікі ўздымаюць пытанне пра гэта тэхрэгламенце, заяўляюць, што па ім немагчыма працаваць. А як можна без элементарных дакументаў прадаваць прадукцыю, якая тычыцца бяспекі жыцця і здароўя чалавека? Калі яны кажуць, што так не могуць працаваць, няхай гандлююць беларускай прадукцыяй, няхай прадаюць беларускія панчохі, шкарпэткі", - заявіў Пётр Пракаповіч на пасяджэнні Савета па развіцці прадпрымальніцтва, перадае" Інтэрфакс ".

Віцэ-прэм'ер адзначыў, што ўрад прадаставіў ІП істотныя льготы і камфортныя ўмовы на пераходзе на працу па новых правілах. Акрамя таго, працягнуў ён, сёння ў Беларусі атрымліваюць развіццё не рынкавыя формы гандлю, а буйныя гандлёвыя сеткі.

"Сёння не тая сітуацыя, што была 20 гадоў таму. У нас створаны буйныя гандлёвыя цэнтры, сеткі, і ў наступнай пяцігодцы колькасць гандлёвых плошчаў на душу насельніцтва будзе, як у Еўропе. Калісьці скончыцца час, што людзі будуць ісці за таварамі на рынак ", - сказаў Пракаповіч.

У сувязі з гэтым ён прапанаваў ІП, якія сёння займаюцца гандлем на рынках, "падумаць пра тое, чым займацца далей, ісці ў іншыя сферы - у турызм, аказанне паслуг, вытворчасць".

"Любое аб'яднанне - гэта страта часткі незалежнасці і праца па агульных правілах. Гэта карысць для ўсіх, калі і ў Беларусі, і ў Расіі, і ў Казахстане ёсць адзіныя правілы", - падкрэсліў віцэ-прэм'ер.

**www.charter97.org/ru/news/2013/8/23/74445/**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АПАЗІЦЫЯ БУДЗЕ ЎВАЖЛІВА НАЗІРАЦЬ ЗА МЯСЦОВЫМІ ВЫБАРАМІ

**Намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч паведаміў БелаПАН, што ў межах кампаніі "За справядлівыя выбары" пяць апазіцыйных арганізацый маюць намер вылучыць 1,5 тысячы назіральнікаў.**

Пагадненне аб сумесным назіранні падпісалі Рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду!", Партыя БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

Губарэвіч паведаміў, што ўпершыню кампанія "За справядлівыя выбары" была рэалізавана ў форме міжпартыйнага пагаднення на парламенцкіх выбарах 2008 года, пасля праводзілася на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года і парламенцкіх 2012-га.

"У адрозненне ад папярэдніх кампаній на маючых адбыцца мясцовых выбарах асноўны акцэнт было вырашана зрабіць на працы назіральнікаў у тых акругах, дзе ёсць кандыдаты, якія прадстаўляюць структуры, якія падпісалі пагадненне", – сказаў ён.

Губарэвіч таксама паведаміў, што пагадненне аб удзеле ў кампаніі "За справядлівыя выбары" адкрыта для падпісання ўсімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.08.2013 у 18.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.